# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 32 6 жніўня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2278) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)







Папярэдні нумар «Голасу Радзімы» рабіўся яшчэ да 27 ліпеня, таму невядома было, якім будзе свята — Дзень Незалежнасці. Цяпер, узгадваючы яго, можна сказаць, што свята нагадвала дзве плыні, якія, нягледзячы на заклікі да адзінства і згуртаванасці, так і не зліліся ў адну. Афіцыйная плынь, на ўрадавым узроўні, адзначыла свята ўскладаннем вянкоў да помніка-абеліска на плошчы Перамогі і ўрачыстым вечарам у філармоніі, які трансліраваўся па тэлебачанні. Другая плынь, апазіцыйная, пад лозунгамі БНФ, працякла калонамі па праспекце Скарыны ад плошчы Незалежнасці да парку Янкі Купалы і там усклала кветкі да помніка Песняру. Быў яшчэ мітынг у тым жа парку, на якім узнімаліся вострыя палітычныя і сацыяльныя праблемы, але якія не перадавала БТ. Быў яшчэ і малебен у Курапатах.

Гэта ўсё было ў сталіцы. Урачыстасці, арганізаваныя наспех, прайшлі і ў абласных гарадах.

НА ЗДЫМКАХ: працэсія афіцыйных асоб на чале з С. ШУШКЕВІЧАМ на плошчы Перамогі; шэсце па праспекце Скарыны да парку Янкі Купалы.

Фота А. ТАЛОЧКІ.

***ІНТЭРВ'Ю СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. ШУШКЕВІЧА БЕЛАРУСКАМУ ІНФАРМАЦЫЙНАМУ АГЕНЦТВУ І НАЦЫЯНАЛЬНАМУ ТЭЛЕБАЧАННЮ***

# СУВЕРЭНІТЭТ БЕЛАРУСІ — АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

**КАР. Станіслаў Станіслававіч! 27 ліпеня 1990 года сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі прыняла Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Але адна справа — акрэсліць шлях у будучыню і зусім іншая — крочыць гэтым шляхам. Скажыце, калі ласка, наколькі ўдалося за гэтыя два гады напоўніць канкрэтным зместам артыкулы Дэкларацыі?**

С. ШУШКЕВІЧ. Самае галоўнае, што адбылося за мінулыя два гады, гэта тое, што Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь была нададзена сіла канстытуцыйнага закона. І калі палажэнні нашай Канстытуцыі не адпавядаюць палажэнням Дэкларацыі, мы павінны кіравацца ўжо Дэкларацыяй. Але скажу прама, што гэта фармальны акт, таму што, напрыклад, як можна надаць сілу закона нашаму жаданню стаць нейтральнай дзяржавай? Над гэтым трэба працаваць. І я сказаў бы, што за два гады, што прайшлі з моманту абвяшчэння Беларусі незалежнай, адбыліся наступныя найважнейшыя падзеі. Перш за ўсё, калі мы ратыфікавалі пагадненне аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў, мы фактычна дэнансавалі дагавор 1922 года аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і зрабілі прававыя падставы для таго, каб Беларусь прызнавалі як незалежную дзяржаву.

На сённяшні дзень больш чым 100 краін свету прызналі Беларусь незалежнай і больш чым 50 краін свету ўстанавілі з намі дыпламатычныя адносіны.

**КАР. Вы ўспрымаеце гэта як само сабой зразумелае?**

С. ШУШКЕВІЧ. Па праўдзе кажучы, я ўспрымаю гэта як само сабой зразумелае. Беларуская дзяржаўнасць — даўняя. І калі свету гэта было растлумачана на многіх міждзяржаўных форумах, на розных узроўнях, у Швейцарыі, дзе збіраліся кіраўнікі ўсіх вядучых дзяржаў, у Хельсінкі, у Рыо-дэ-Жанейра, у час візітаў у розныя сталіцы і візітаў да нас, то цяпер ужо не пытаюцца, што гэта за Беларусь і дзе яна знаходзіцца, а ведаюць: Беларусь — каардынацыйны цэнтр Садружнасці Незалежных Дзяржаў, Мінск — цывілізаваны еўрапейскі горад, у які з вялікім задавальненнем прыязджаюць прадстаўнікі іншых краін. Але галоўнае, што наша ўлада, абраная беларускім народам, не пытаецца дазволу у нейкай іншай улады, што ёй рабіць на Беларусі, за мяжой, яна сама вырашае ўсе пытанні.

**КАР. Станіслаў Станіслававіч, вы лічыце, што гэта трыумф гістарычнай справядлівасці?**

С. ШУШКЕВІЧ. Я лічу, што гэта гістарычная справядлівасць. Да трыумфу яшчэ далёка. Трэба многа-многа працаваць.

**КАР. Станіслаў Станіслававіч, скажыце, які змест вы ўкладваеце ў паняцце суверэнітэт з пункту гледжання палітыкі, эканомікі, маралі, маральнага стану нацыі?**

С. ШУШКЕВІЧ. Суверэнітэт і незалежнасць — гэта сінонімы. Наш суверэнітэт — гэта верхавенства ўлады, абранай беларускім народам, і няма над гэтай уладай вышэйшай. Яна падпарадкоўваецца Канстытуцыі, заканадаўству Рэспублікі Беларусь, міжнародным пагадненням, якія заключыла Рэспубліка Беларусь альбо пераймальнікам якіх яна з'яўляецца. А далей яна сама вырашае ўсе пытанні. Такая ўлада ёсць. Гэта палітычны аспект праблемы.

Цяпер эканамічны аспект. Я думаю, што калі мы будуем самастойную дзяржаву, мы павінны вызначыць свае пазіцыі ў адносінах да ўласнасці і на падставе гэтага вызначэння будаваць эканоміку. Мы фактычна вызначыліся, што мы ідзём да рыначнай эканомікі. Але заўважце, ідзём разважаючы, ідзём не так, як робяць нашы суседзі і на захадзе, і на ўсходзе, і на поўначы, і на поўдні. Мы вырашылі, што наш шлях павінен быць беларускім шляхам і нашым беларускім розумам яго трэба ажыццяўляць. Ён памяркоўны, як і ўсе крокі беларусаў. Ён накіраваны на тое, каб у нас адбылося пераразмеркаванне ўласнасці. Я перш за ўсё хацеў бы, каб у нас адбылася прыватызацыя тых сродкаў і той вытворчасці, якую лагічна прыватызаваць. Напрыклад, гандаль, сфера паслуг. Але гэта цяжка рабіць, бо супрацьстаяць вялікія сілы, якія добра адчуваюць сябе ў старой сістэме. Тут, з аднаго боку, спяшацца нельга, а з другога — трэба дзейнічаць энергічней. Ураду нялёгка гэта спалучаць. Таму ў эканамічным сэнсе адчуць радыкальных змен пакуль што фактычна не ўдалося. А пагаршэнне ўдалося адчуць.

У маральным — мы адчулі сябе беларусамі. Мы зразумелі, што ў нас ёсць што адраджаць. Гэта робіцца крок за крокам. Я перакананы, што мы будзем высокамаральнай дзяржавай і наша ўлада будзе высокамаральнай.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ВІНШАВАННІ

## З ДНЁМ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ў прэс-службе Вярхоўнага Савета, дзесяткі віншавальных тэлеграм з выпадку Дня Незалежнасці прыйшлі напярэдадні свята ў вышэйшы дзяржаўны орган Беларусі.

«Выказваю цвёрдую ўпэўненасць, што шматвяковая дружба паміж нашымі народамі, якая гістарычна склалася і выпрабавана часам, адносіны добрасуседства, узаемнага даверу і цеснага супрацоўніцтва і ў далейшым будуць развівацца на карысць нашых брацкіх краін і народаў у інтарэсах захавання міру і ўмацавання бяспекі. Жадаю дружалюбнаму народу Беларусі працвітання і поспехаў на нялёгкім шляху рэформ», — піша прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын.

«Дабрабыту і шчасця» жадае беларускаму народу прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук, «працвітання і магутнасці» — старшыня Кітайскай Народнай Рэспублікі Ян Шанкунь, «поспехаў» — прэзідэнт Малдовы Мірча Снегур, «дабрабыту» — прэзідэнт Арменіі Левон Петрасян.

Віншаванні паступілі і ад іншых кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц СНД, зарубежных палітычных і грамадскіх дзеячаў.

ІДЗЕ ЖНІВО



Ва ўсіх абласцях Рэспублікі Беларусь ідзе жніво. Цяжка рабіць нейкія прагнозы на ўраджай. У многіх рэгіёнах ад шматдзённай спякоты на высокіх месцах збожжа пасохла, але ў нізінах мяркуецца сабраць нямала зерня.
НА ЗДЫМКУ: жніво ў калгасе «40 гадоў Кастрычніка», што ў Рэчыцкім раёне.

У МІНІСТЭРСТВЕ АБАРОНЫ РБ

## КЛЯТВА НА ВЕРНАСЦЬ

Першым воінскім злучэннем ў ствараемых Узброеных Сілах Беларусі стала механізаваная брыгада, дыслакаваная ў Гродне. Пра гэта заявіў міністр абароны рэспублікі генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі на пасяджэнні калегіі Міністэрства абароны.

— Працэс стварэння ўласнай арміі ў рэспубліцы набірае тэмпы, — заўважыў ён. — Нашы Узброеныя Сілы будуць складацца са злучэнняў і часцей новага тыпу — высокаманеўраных і добра ўзброеных. Але не меншай гарантыяй бяспекі краіны павінна стаць воінская прысяга на вернасць беларускаму народу.

Члены калегіі адзначылі, у прыватнасці, што ўсё большая колькасць армейскіх афіцэраў схіляецца да думкі аб неабходнасці такой клятвы. Гэта паказалі і праведзеныя ў войсках сацыялагічныя даследаванні, па якіх каля 90 працэнтаў апытаных заявілі аб гатоўнасці прыняць новую прысягу.

І хаця працэс гэты няпросты, як паказаў вопыт некаторых рэспублік былога Саюза ССР, але пачынаць яго трэба не адкладваючы. У сувязі з узнікшым становішчам па фарміраванню арміі міністр абароны і прапанаваў членам калегіі звярнуцца ў Савет Міністраў рэспублікі з просьбай падтрымаць ініцыятыву ваенных і выйсці на чарговую сесію Вярхоўнага Савета Беларусі з заканадаўчай ініцыятывай аб прыняцці воінскай прысягі.

П. Казлоўскі лічыць, што мэтазгодна будзе прывесці рэспубліканскія войскі да прысягі ў канцы года, і назваў прыкладную дату: 31 снежня 1992 года. Гэты час выбраны не выпадкова, сказаў міністр. За пяць месяцаў, што засталіся, афіцэры і прапаршчыкі змогуць вырашыць, дзе каму служыць. Да таго ж, па існуючых планах, к канцу года трэба будзе расфарміраваць каля ста воінскіх часцей. Ужо будзе створаны касцяк новых армейскіх структур. Мы таксама спадзяёмся, падкрэсліў генерал-палкоўнік, што на маючай адбыцца асенняй сесіі Вярхоўны Савет рэспублікі прыме неабходныя законы па абароне, якія і створаць першаснову для ваеннага будаўніцтва.

*«— Пан пасол, некаторыя палітычныя дзеячы на Украіне і на беларускім Палессі ўзнімаюць пытанне аб «уз'яднанні Брэстчыны з Валынню». Ці існуе афіцыйная пазіцыя Кіева наконт гэтага?*

*— Існуе. Яе неаднаразова выказваў прэзідэнт: Украіна ні да адной з суседніх краін не мае тэрытарыяльных прэтэнзій. Мы не павінны дапусціць ніякага нагнятання страсцей, неапраўданых эмоцый. А ўжо калі недзе і ўзнікае напружанасць — яе можна і трэба зняць у рамках існуючых межаў, вядома — з улікам правоў і жаданняў людзей. Найлепшае выйсце з любой тэрытарыяльнай спрэчкі — стварэнне роўных умоў для прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей.*

*На Украіне жыве каля 300 тысяч беларусаў, і на Беларусі — больш за 400 тысяч украінцаў. Мы павінны зрабіць усё, каб гэтыя людзі не адчувалі сябе чужымі на сваёй новай радзіме. Сярод нашых беларусаў ёсць буйныя кіраўнікі, сапраўдныя патрыёты Украіны: Курашык, старшыня ўрада Крыма, ці, напрыклад, Мельнікаў, прадстаўнік прэзідэнта ў Херсонскай вобласці».*

*(З інтэрв'ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Уладзіміра ЖАЛІБЫ карэспандэнту інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН»).*

ВА ЎРАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ

## УРАДЖАЙ-92

На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь абмеркавана пытанне аб ходзе выканання рашэнняў урада аб вытворчасці кармоў і фарміраванні дзяржаўных рэсурсаў збожжа ў 1992 годзе. І дакладчык, міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Ф. Мірачыцкі, і кіраўнікі абласцей рэспублікі, якія затым выступілі, падкрэслівалі выключную складанасць сітуацыі, што ўзнікла ў сферы аграрнай вытворчасці з-за працяглай засухі. Урон ураджаю нанесены практычна паўсюдна ў Віцебскай вобласці, паўночных раёнах Гродзенскай і Мінскай абласцей, ва ўсходніх раёнах Магілёўшчыны, у асобных раёнах Гомельскай і Брэсцкай абласцей. Паводле прагнозаў спецыялістаў, валавы збор збожжа складзе каля 5,5 мільёна тон у бункернай вазе, супраць 7 — у мінулым годзе . У сувязі з засухай цяжкае становішча ў рэспубліцы і з нарыхтоўкай кармоў.

З улікам узнікшай сітуацыі ўрад намеціў рад канкрэтных мер. Органам выканаўчай улады на месцах прапанавана забяспечыць старанны збор і шырокае выкарыстанне саломы на кармы. Каб спаўна забяспечыць насельніцтва хлебам, прынята рашэнне аб выдзяленні сродкаў з бюджэту на закупку неабходнай колькасці збожжа ў Казахстане, з якім ужо ёсць такая дагаворанасць, а таксама ў іншых дзяржавах.

Зменены закупачныя цэны на збожжа. Цяпер базавая цана за адзін кілаграм складзе 10,6 рубля. Вырашана таксама катэгарычна забараніць вываз збожжа з рэспублікі, акрамя таго, каб пазбегнуць далейшага росту цэн, часова забаронены закупкі збожжа на ўнутраным рынку біржамі.

ПА ЗАПРАШЭННЮ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

## СВАІХ СЫНОЎ І ДАЧОК ЗБІРАЕ БЕЛАРУСЬ

29 ліпеня згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» правяло чарговае пасяджэнне рады, якое мела ўрачысты і святочны характар. 27 ліпеня ў Дзень Незалежнасці Беларусі па запрашэнні гэтай грамадскай арганізацыі ў рэспубліку прыехала вялікая група нашых суайчыннікаў з беларускіх асяродкаў у ЗША. Менавіта іх прысутнасць абумовіла і цікавасць грамадскасці да пасяджэння рады «Бацькаўшчыны», у якім прынялі таксама ўдзел міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН Г. Бураўкін і намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дзямчук.

Спадар П. Краўчанка ў сваім кароткім дакладзе, з якім звярнуўся да прысутных, коратка расказаў пра цяперашняе цяжкае эканамічнае становішча Беларусі і яе стасункі з былымі рэспублікамі СССР, а таксама з Заходнім светам. Ён выказаў цвёрдую ўпэўненасць, што Беларусь будзе падтрымліваць сваю эміграцыю ў розных краінах свету, спрыяць яе культурным і эканамічным кантактам з Бацькаўшчынай.

«Цяжка паверыць, што мы дажылі да таго светлага дня, калі на радзіме нас сустракаюць як жаданых гасцей, а не як ворагаў, здраднікаў, адшчапенцаў», — са слязамі на вачах гаварыў Сяргей Карніловіч, вядомы актывіст беларускага грамадскага цэнтра «Полацак», што пад Кліўлендам у ЗША. Гэтаму чалавеку, які ў час вайны падлеткам трапіў у Нямеччыну, давялося на ўласным вопыце зведаць стаўленне савецкіх улад да сваіх былых грамадзян. Яго ранейшыя візіты ў Беларусь, калі забаранялася бываць на вёсцы ў сваякоў, сустракацца з тымі ці іншымі людзьмі, пастаянная падазронасць з боку адпаведных службаў пакінулі ў душы цяжкі след. Тым не менш нашы суайчыннікі не з крыўдай прыехалі на Беларусь, а з шчырым імкненнем быць карыснымі краіне, якая стала на шлях незалежнасці і дэмакратыі. Дарэчы, і ў гэты свой візіт нашы суайчыннікі прывезлі гуманітарную дапамогу хворым дзецям, набыўшы лекі і адзенне на ахвяраванні амерыканскіх беларусаў.

З вялікай увагай было ўспрынята нашымі замежнымі гасцямі выступленне прэзідэнта асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій у Беларусі Г. Штыхава. Тэма яго паведамлення аказалася надзвычай актуальнай, бо менавіта масавыя палітычныя рэпрэсіі ў 20—30 гады прымусілі пакінуць Бацькаўшчыну сотні тысяч беларусаў, працаўнікоў, патрыётаў свайго краю. Бадай што, няма такой сям'і сярод нашых замежных суайчыннікаў, у якой хаця б хто-небудзь не пацярпеў ад гэтых рэпрэсій, ад сапраўднага генацыду супраць свайго народа.

На пасяджэнні рады «Бацькаўшчыны» было пастаўлена пытанне аб Усебеларускім кангрэсе, які мяркуецца правесці ў Мінску ў верасні 1993. Сустаршынямі ў аргкамітэт Усебеларускага кангрэса былі прапанаваны спадары П. Краўчанка — ад дзяржаўных структур і В. Быкаў — ад грамадскіх арганізацый.

Замежныя госці «Бацькаўшчыны» выступілі з невялікім канцэртам перад прысутнымі.

Т. АНТОНАВА.

МУЖНАСЦЬ



Пілот падпалкоўнік Аляксандр Сцепчанкоў і штурман маёр Мікалай Іваноў выконвалі палёт на вучэбна-баявым самалёце ТУ-22. А ў лётчыка-інструктара Разанскага лётнага цэнтра падпалкоўніка Віктара Оськіна была інспектарская функцыя.

Ад з'яўлення на шчытку авіяпрыбораў сігнала аб узнікненні пажару да падзення самалёта прайшло не больш 15—20 секунд. Але гэтага імгнення цалкам хапіла для рашэння такой жорсткай дылемы: ратаваць сваё жыццё ці ў першую чаргу жыццё жыхароў Навабеліцкага раёна Гомеля (над іх дамамі пралятаў у тыя мінуты самалёт). Першым, калі машына была накіравана на на лясны масіў на ўскраіне горада, пакінуў борт штурман Мікалай Іваноў, затым катапультаваўся пілот Аляксандр Сцепчанкоў, які прапанаваў зрабіць тое ж і Оськіну. Але Віктару, які затрымаўся на імгненне ў палаючай машыне, каб пераканацца канчаткова, што самалёт на ранейшы курс не ляжа, гэтых некалькіх секунд і не хапіла. Калі пасля катапультавання пачаў напаўняцца паветрам купал яго парашута, самалёт ужо амаль закранаў дахі дамоў чыгуначнай станцыі «Лісічкі», за сто метраў ад якой і ўпаў.

Вось і ўсё. Прычыны трагедыі высвятляюцца. Можна хіба дадаць, што самалёт эксплуатаваўся з 1961 года, а рухавікі тройчы былі ў капітальным рамонце.

# СУВЕРЭНІТЭТ БЕЛАРУСІ— АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**КАР. Часта гаворыцца пра поўны суверэнітэт. Палітычны, эканамічны. На вашу думку, ці можа ён быць поўным, ці можна яго дасягнуць?**

С. ШУШКЕВІЧ. Скажу вам як фізік, што абсалютных паняццяў наогул не існуе. Я ўжо гаварыў пра вярхавенства нашай улады. Але ж мы не на чыстай талерцы з'явіліся, вакол нас — тыя дзяржавы, якія ўтваралі Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Мы не можам сябе паводзіць як бы на зло ім, павінны ўзгадняць пытанні, якія маюць агульны інтарэс. Трэба ўзаемадзейнічаць. А ўзаемадзеянне — не поўная свабода. Іншая справа, што няма ганебнай абмежаванасці. Мы можам адчуваць сябе сапраўднай дзяржавай, але якая знаходзіцца ў вельмі моцнай узаемасувязі з суседзямі. І ў гэтым сэнсе суверэнітэт нараджае не толькі правы, але і абавязкі, якія трэба выконваць. Дарэчы, нашы суседзі павінны выконваць свае абавязкі ў адносінах да нас. Мы павінны выконваць усе міжнародныя пагадненні, паважаць правы чалавека. Знявагі нашага суверэнітэту мы не дапускаем. А цывілізаванае ўзаемадзеянне з суседзямі — наш абавязак.

Мы суверэнная дзяржава, якая павінна прайсці пэўны пераходны перыяд, каб стаць суверэннай у рамках пагадненняў.

**КАР. Іншы раз складваецца ўражанне, што суверэннасць звалілася на нас нечакана і дагэтуль з'яўляецца нязвыклай, цяжкай ношай.**

С. ШУШКЕВІЧ. Я з вамі катэгарычна не згодзен. Наша суверэннасць вымучаная, заслужаная нашым народам, волю якога выказаў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Іншая справа, што яна патрабуе, і тут вы маеце рацыю, вельмі высокай кваліфікацыі ад кіраўнікоў. На жаль, за нашу папярэднюю гісторыю, і, дарэчы, не толькі савецкую, гіпертрафіраваныя формы набыло ўтрыманства. Заўсёды быў нейкі начальнік, які даваў парады, як і што рабіць. А цяпер такога начальніка няма. Таму і цяжка.

**КАР. Вы крыху закранулі сітуацыю ў эканоміцы. Яна такая, што хваліцца пакуль што не трэба. Калісьці рэфарматар Сталыпін казаў, што свабода павінна суправаджацца дастаткам. Прэзідэнт Ельцын абяцае расіянам, што іх дабрабыт пачне паляпшацца ў канцы гэтага года ці ў пачатку наступнага. А які ваш прагноз эканамічнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь?**

С. ШУШКЕВІЧ. Можна гаварыць па сярэдніх лічбах і па катэгорыях насельніцтва. Што да сярэдніх лічбаў, гэта значыць да агульнага дастатку, да вытворчасці прадуктаў харчавання, тавараў першай неабходнасці, сітуацыя фактычна стабілізавалася. Засуха крыху сапсавала нам настрой. Мы чакалі, што ўраджай сёлета будзе рэкордны. Зараз бачым, што збожжа намалоцім менш, чым разлічвалі. Мяркую, што ўсё ў парадку будзе з бульбай. Таму паўтараю: наша агульная сітуацыя стабілізуецца і ёсць шанцы на яе паляпшэнне. Далей пачынаецца расслаенне. Адны жывуць лепей, другія—горш. Тут павінна быць разумнае спалучэнне праграм сацыяльнага забеспячэння і жорсткіх праграм развіцця эканомікі. Гэта залежыць ад таленту, вопыту і адукаванасці Вярхоўнага Савета і ўрада. Чым менш у гэтых структурах будуць мусіравацца іншыя праблемы, тым лепшыя суадносіны сацыяльнай забеспечанасці і развіцця эканомікі будуць створаны. Мне здаецца, што наш народ пачаў спачуваць і ўраду, і парламенту. Ён стварыў нармальныя ўмовы для іх работы. Паўтараю, нармальныя ўмовы для вышэйшай улады будуць спрыяць таму, што стабілізацыя пяройдзе ў працэс павелічэння вытворчасці.

Праўда, я не магу даць такіх гарантый, якія дае прэзідэнт Расіі. Ён у значнай ступені абапіраецца на знешнеэканамічныя фактары, на крэдытаванне вонкавае. Мы не можам пайсці па гэтаму шляху, не можам павялічыць дзяржаўны доўг, таму што цяпер, па ацэнках нашых эканамістаў, мы перайшлі ўжо крытычную мяжу. Калі плаціць даўгі былога Савецкага Саюза, то больш нельга браць у крэдыт. Мы павінны ісці не па шляху крэдытавання, а па шляху стварэння ўмоў для замежных інвестыцый. У адрозненне ад нашых багатых суседзяў мы маем даволі мала радовішчаў, можам прадаваць калійныя ўгнаенні і тыя сродкі, якія вырабляюцца рукамі і розумам нашых людзей. І попыт на наш тавар будзе залежаць ад таго, як будзем працаваць. Калі зможам працаваць так, як працуюць немцы, то і жыць будзем, як яны. Працаваць, як раней, і жыць лепш — немагчыма.

Што тычыцца нашых суседзяў, напрыклад Расіі, то яны абяцаюць сваім грамадзянам тое, чаго мы не страцілі. Нашы людзі забяспечаны лепш.

Іншым разам нас папракаюць за захаванне старых падыходаў. Але мы не хочам іх захоўваць надоўга. Мы імкнёмся, каб новае ўзнікала з такой жа хуткасцю, як разбураецца старое.

**КАР. Станіслаў Станіслававіч, многія ва ўсіх бедах вінавацяць урад і парламент. А на вашу думку, у чым віна сённяшняга парламента і ўрада, у чым ёсць здабыткі?**

С. ШУШКЕВІЧ. Я ўспрымаю ўсю крытыку ў адрас урада і парламента, калі гэта канкрэтная крытыка. Калі гаворыцца, што гэты закон дрэнны, таму што ў ім няма прыватнай уласнасці на зямлю, а прыватная ўласнасць на зямлю дае тое, тое і тое, я ўспрымаю гэту крытыку. Але калі сцвярджаюць: гэты закон дрэнны, таму што яго прынялі бюракраты, партакраты, камуністы,— гэту крытыку я не ўспрымаю. Крытыку, заснаваную на папярэдняй гісторыі, успрыняць не магу. Дэпутаты абраны ў адпаведнасці з існуючым заканадаўствам, і давайце канстытуцыйна вырашаць усе пытанні.

Па даных сацыялагічных даследаванняў, сёння трыццаць працэнтаў насельніцтва рэспублікі не падтрымлівае Вярхоўны Савет і ўрад. А большасць падтрымлівае. Даследаванні, дарэчы, праводзіліся прафесіяналамі з незалежных службаў.

**КАР. Станіслаў Станіслававіч! Вы адчуваеце сябе грамадзянінам незалежнай дзяржавы? Узяўшы прыклад з дэ Голя, вы можаце сказаць сваім суайчыннікам: «Вы — вялікі народ, вы — беларусы!»?**

С. ШУШКЕВІЧ. Я адказаў бы на ваша пытанне так: я заўсёды адчуваў сябе беларусам. Я пераняў гэта ад бацькі, калі ён 20 гадоў быў у Сібіры, усё роўна адчуваў сябе беларусам і лічыў сябе грамадзянінам Беларусі.

Скажу, што інтэлігенцыя, палітыкі Беларусі робяць усё магчымае, каб адрадзіць нашу беларускасць. Мы — шматпакутны народ, беларусы. Нас не так многа на свеце, крыху больш за 10 мільёнаў. Але мы народ, які спакойна адраджае сваю дзяржаўнасць. І калі нас не саб'юць з толку крыкуны, людзі, якія вырашаюць перш за ўсё свае асабістыя справы і хочуць для гэтага атрымаць народную падтрымку, то гэтая дзяржаўнасць будзе заваявана. Мы павінны захаваць галоўнае — законны падыход да справы.

**КАР. Давайце яшчэ раз звернемся да праблем улады. Было многа сказана пра крызіс выканаўчай улады, асабліва мясцовай. Крызіс працягваецца, ці пачала ўлада рухацца да чалавека?**

С. ШУШКЕВІЧ. Я не ўжываў бы слова «крызіс». Ёсць вялікія цяжкасці ў кіраванні дзяржавай. І на рэспубліканскім узроўні, і на мясцовым. У чым тут справа? Мы не маем дакладнага заканадаўства, якое б ва ўсіх акалічнасцях вызначала, дзе чыя кампетэнцыя. Калі гаварыць аб умацаванні ўлады, лепш пачынаць з мясцовай. Будаваць дом трэба пачынаць з падмурка. З месцаў у Вярхоўны Савет прыходзяць тысячы зваротаў, якія не маюць дачынення да дзейнасці Вярхоўнага Савета. Яны маюць дачыненне да дзейнасці мясцовых улад. У час паездак па рэспубліцы я пераканаўся, што мясцовая ўлада не паважаецца ў многіх месцах. Да мяне звяртаюцца з пытаннямі, якія павінны быць вырашаны на месцы. А я адказваю: вось сядзіць старшыня райвыканкома, ён вышэйшая ўлада ў вашым выпадку. Я не магу змяніць прынятае ім рашэнне, калі б нават хацеў, бо яно законнае. Не, чалавек усё роўна ідзе вышэй.

**КАР. Прабачце, але людзей так выхоўвалі дзесяцігоддзямі.**

С. ШУШКЕВІЧ. На жаль, выхаванне было такім добрым, што цяпер зневажаць уладу стала звычаем. Гэта недапушчальна. Я перакананы, што мясцовую ўладу трэба выбіраць усім народам. Тады давер будзе поўны. Выбарчы закон у бліжэйшы час будзе прыняты. Ды і на падставе таго, што ёсць, можна нядрэнна праводзіць выбары. Я прыхільнік таго, каб паскорыць гэты працэс.

**КАР. Хацеў бы засяродзіць вашу ўвагу на Вярхоўным Савеце ў сувязі з вашым інтэрв'ю газеце «Свабода», у якім вы сказалі, што парламент не здольны працаваць у тым тэмпе, які вы яму прапанавалі пасля жнівеньскіх падзей. Можа, сапраўды патрэбен іншы парламент?**

С. ШУШКЕВІЧ. Я сказаў, што Вярхоўны Савет не можа працаваць у тым тэмпе, якога б мне хацелася. Што гэта значыць? Мы адчуваем пэўны вакуум заканадаўства. Але беларускі парламент напрацаваў законаў больш, чым любы з дзяржаў былога Савецкага Саюза. Якасць законаў павінна быць высокай. Таму я лепш ахвярую хуткасцю, чым якасцю. Парламент не можа «пекчы законы, як кепскія вершы для кепскіх газет».

**КАР. Як вы лічыце, замена Вярхоўнага Савета на дадзеным этапе—сапраўды актуальная задача на шляху да суверэнітэту ці гэта чарговы этап барацьбы за ўладу?**

С ШУШКЕВІЧ. Я лічу, што гэта этап барацьбы за ўладу. Калі чытаеш газеты, прыходзіш да высновы, што друкуюцца «глыбокія» выступленні пераважна тых, хто сам не быў абраны ў парламент або не правёў у яго састаў такую колькасць сваіх калег, каб цяпер быць заўжды падтрыманым. Таму, паўтараю, рэферэндум у значнай ступені — барацьба за ўладу. Добра, калі яна вядзецца канстытуцыйным шляхам. Рэферэндум можа садзейнічаць змене ўлады. Але, на маю асабістую думку, цяперашні Вярхоўны Савет здольны зрабіць больш і хутчэй, чым новы.

**КАР. Станіслаў Станіслававіч, дзяржаўныя дзеячы, імкнучыся да ўлады, а затым атрымаўшы яе, абапіраюцца на падтрымку палітычных партый. Вы не раз падкрэслівалі, што за вамі не стаіць ніякая палітычная сіла. Гэта прадыктавана сітуацыяй ці ў вас ёсць свая каманда?**

С. ШУШКЕВІЧ. Я карыстаюся парадамі маладых таленавітых спецыялістаў і атрымліваю вялікае задавальненне ад узаемадзеяння з гэтымі высокаадукаванымі людзьмі. Праўда, я не маю права называць іх сваёй камандай. Яны не заўжды мяне падтрымліваюць. Сваёй каманды ў прамым сэнсе слова ў мяне няма, і я ганаруся гэтым.

**КАР. Як вы адносіцеся да ўвядзення прэзідэнцтва на Беларусі?**

С. ШУШКЕВІЧ. Я перакананы, што парламенту трэба прайсці этап станаўлення. Без удасканалення парламенцкай работы нам не патрэбна ісці на прэзідэнцтва. Відавочна, праз два-тры гады буду вялікім прыхільнікам прэзідэнцкай улады. А пакуль што патрэбна ўдасканаліць заканадаўства аб Савеце Міністраў, аб мясцовай уладзе, пра што мы ўжо гаварылі. І калі з боку парламента будзе дакладнае абмежаванне прэзідэнцкай улады, дакладныя формы супрацоўніцтва, тады на гэта можна будзе ісці. А пакуль што я пачакаў бы.

**КАР. Скажыце, калі ласка, ці змяніліся вашы ўяўленні аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў, аб механізмах яго функцыянравання? Вы памятаеце, што спачатку ўсе адмаўлялі неабходнасць любых выканаўчых, кантралюючых органаў у Садружнасці. Зараз яны ствараюцца. Што гэта, гісторыя паўтараецца на новым узроўні ці нам сапраўды нельга раздзяліцца?**

С. ШУШКЕВІЧ. Сем з паловай месяцаў, якія прайшлі з моманту ўтварэння Садружнасці, далі мне пэўную асалоду. Упэўнены. Садружнасць утворана ў інтарэсах большасці народаў, якія жылі на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. На пэўных этапах быў непакой. Зараз, бадай, ніхто не сумняваецца, што Садружнасць будзе жыць. Я ўпэўнены, што трэба шмат новых пагадненняў, бо ў рамках тых, якія ёсць, Садружнасць добра функцыяніраваць не можа. І адно з самых галоўных пытанняў — утварэнне структуры, якая была б эканамічным дарадцам, эканамічным каардынацыйным саветам. Гэта ёсць у шэрагу супольнасцей. Будзе і ў нашай. Аб стварэнні такіх органаў, дарэчы, ішла гаворка з першага нашага пасяджэння ў Белавежскай пушчы. Але тады было вялікае процістаянне любым каардынуючым структурам, таму што яшчэ не былі адкінуты старыя. А зараз самыя-самыя, што кляліся не дапусціць камітэтаў, Саветаў, уздымаюць пытанне аб іх утварэнні. Па-мойму, яны адчулі смак у Садружнасці. Яна дапамагае жыць, прадухіляе развал эканомікі, на новыя, рынычныя прынцыпы пераводзіць эканамічныя сувязі. Мы можам у гэтай Садружнасці жыць добра, палюдску і будзем так жыць.

**КАР. Станіслаў Станіслававіч! Вы ведаеце словы «Жыве Беларусь!» Яны гучаць як заклік. Як вы лічыце, што трэба зрабіць, каб яны загучалі як сцвярджэнне?**

С. ШУШКЕВІЧ. Беларусь жыве духам беларусаў, традыцыямі беларусаў. Яна адраджае гэтыя традыцыі. Мы перасталі пераймаць тыя звычаі, што не падыходзяць для нашай зямлі. І ў гэтым сэнсе Беларусь жыла, жыве і будзе жыць. Але каб Беларусь адчувала сябе па-сапраўднаму свабоднай, незалежнай, каб гэта ўсё было на радасць нашым людзям і нашым суседзям, трэба добра і доўга працаваць. Я хацеў бы, каб нашы дзеці жылі ў такой Беларусі, якая стала б дзяржавай на зайздрасць многім.

**КАР. Што б вы ў дзень свята пажадалі нашым суайчыннікам, якія вераць у лепшы лёс?**

С. ШУШКЕВІЧ. Сказаў бы тое, што гаворыце вы. Трэба верыць у лепшы лёс, знаходзіць прыемнае ў штодзённым, падказваць кіраўнікам, як лепей вырашаць праблемы. Трэба развітацца з утрыманствам, таму што сваё шчасце можна ствараць толькі сваімі рукамі.

Жыве Беларусь!

**Інтэрв'ю вялі Я. АЛЯКСЕЙЧЫК, А. КІЙРАНЕН, А. КРЫЖАНОЎСКІ.**

## З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# ПАМІЖ ІЛЮЗІЯЙ І АБСУРДАМ

Да нас прыйшоў чарговы — пяты нумар інфармацыйна-культурнага выдання Усходняй Беласточчыны «Часопіс». А ў ім найперш звярнулі на сябе ўвагу праблемы беларускага, калі можна так сказаць, самавыжывання. У прыватнасці, пра іх з болем і сумам піша Яўген Мірановіч у артыкуле «Паміж ілюзіяй і абсурдам». Падзяляючы настрой аўтара, падаём некалькі фрагментаў з яго артыкула. Спадзяёмся, што яго змест дойдзе да тых, каму ён адрасаваны.

Песімізм, які апошнім часам апанаваў беларускае асяроддзе ў Польшчы, не мае сабе роўнага, хіба што — як гавораць старыя людзі — сённяшнюю сітуацыю параўнаць да трыццатых гадоў. Усюды пачуццё безнадзейнасці, бяссілля і спадзяванне яшчэ горшага.

Мы, беларусы, перажываем не толькі развал эканомікі нашага рэгіёну, але таксама ўсіх сфераў нацыянальнага жыцця. Хаця ўзнікла шмат беларускіх арганізацый і паўстаюць новыя, аднак іх рэальныя ўплывы ў грамадстве невялікія. Прычын такога стану ёсць некалькі, і не абмяжоўваюцца яны толькі да бяссэнсоўных і самагубных сварак паміж дзеячамі паасобных арганізацый. Адна прычына застою ў працы ўсіх асяроддзяў ёсць універсальная — недахоп грошай, без якіх усякая дзейнасць немагчымая. Цяжка нават сабрацца ў адным месцы людзям з Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Гарадка з простай прычыны: даехаць — гэта значыць выдаць каля 20 тысяч злотых, а ніводная арганізацыя не звяртае коштаў падарожжа, бо не мае ніякіх фундушаў. Нават БГКТ, якое дагэтуль дыспанавала памяшканнямі, штатамі, аўтобусамі, «паланэзам», амаль перастала існаваць, калі варшаўскія ўраднікі перасталі дасылаць грошы. Шмат з нас у васьмідзесятых гадах паверыла таксама ў тое, што развал камуністычнай сістэмы развяжа шмат нашых нацыянальных праблемаў.

Снілася нам тады, што калі адыдзе таталітарная сістэма, паўстане на яе месцы цывілізаваная еўрапейская палітычная рэчаіснасць. Замест таго — вырасла нацыянальная дзяржава, дзе роўнасць грамадзян ёсць толькі фармальнай дзеля патрэбаў вонкавай палітыкі. Хопіць толькі параўнаць прадбачаныя выдаткі дзяржаўнага бюджэту на 1992 год на патрэбы **сваіх грамадзян непалякаў і** палякаў — грамадзян Беларусі, Літвы, Украіны. **Дзяржава грамадзян з дэмакратычна-ліберальнымі структурамі скончылася ўжо тады, калі пачалі будаваць яе фундаменты.**

**Лічылі мы таксама на тое, што, калі паўстане беларуская дзяржава, падтрымае яна нас ужо толькі сваім існаваннем, а і дыпламатычнымі дарогамі яе ўраднікі спрабуюць арыентавацца, як жывуць беларусы за межамі рэспублікі.** Доўга і з нецярплівасцю большай, чым беларусы ў рэспубліцы, чакалі мы таго дня, калі ў Менску над будынкамі дзяржаўных установаў пакажацца бел-чырвона-белы сцяг, а міністры, пісьменнікі, ураднікі, журналісты і настаўнікі загавораць па-беларуску. І паўстала быццам незалежная Беларусь, сцяг, як трэба, вісіць над парламентам, і нават некаторыя міністры мовяць на роднай мове, аднак у нашай сітуацыі тут нічога не змянілася. Быў у Польшчы прэм'ер-міністр Кебіч, міністр замежных спраў Краўчанка, міністр асветы Гайсёнак, віцэ-міністр культуры Рылатка. Што ўразіла шмат беларусаў у гэтых палітыкаў — **гэта закамплякселасць перад палякамі, амаль нулявое разуменне праблемаў беларускай меншасці ў Польшчы і фармалізм у адносінах да сваіх суродзічаў.** Пасля гэтых візітаў шмат людзей патраціла нават надзею на якія-кольвек змены. **Ёсць яшчэ і апазіцыя, але яна так занята барацьбой за ўладу, што забылася, дзеля якіх мэтаў вядзе гэтую барацьбу!**

Узнікае тут пытанне: на каго альбо на што мы, беларусы, можам лічыць, і ці ўвогуле варта яшчэ за штосьці змагацца; ці не лепей апусціць рукі і чакаць, калі знікне «Ніва», бо не будзе каму яе чытаць, калі закрыюць апошнюю беларускую школу, бо не будзе каму ў яе хадзіць?!

Я веру, што ў нас ёсць магчымасці самім ратавацца. Нам не хапае перад усім добрай волі і арганізаванасці. Нават найлепшы лекар, карыстаючыся ўсімі даступнымі сродкамі, не дапаможа хвораму, калі ён сам не захоча вылечыцца! Думаю, што розніцы поглядаў і супярэчнасці паміж рознымі беларускімі групамі, а нават паасобнымі дзеячамі былі, ёсць і надалей застануцца, але калі хтосьці ёсць беларусам **(не бяру пад увагу тых «беларусаў», якія дзеля сваіх прыватных патрэбаў альбо з волі чужых ураднікаў хацелі б бачыць Беласточчыну без «Нівы» і «Часопіса», беларускіх арганізацый, школ і мерапрыемстваў)**, дзеля **СВАЙГО** ратавання павінен шукаць супрацоўніцтва з людзьмі, якіх, можа, арганічна не пераносіць, але якія знайшліся ў такім жа становішчы.

Ніхто і ў нікога не павінен прасіць прабачэння, ніхто і нікому не павінен быць прымушаным выбачаць, бо гэта — нерэальна. Пакуль што мы толькі называемся хрысціянамі, а такі жэст, як прабачэнне, перарастае нашыя маральныя магчымасці. Зыходзячы з чыста эгаістычных прынцыпаў, калі мы яшчэ зусім не ідыёты, мы павінны імкнуцца сысці з дарогі, якая вядзе нас да нацыянальнага самагубства. Што з гэтага, калі ў Гайнаўцы будзе музей, але не будзе там беларусаў; што з гэтага, калі будзе «Ніва» і яе рэдакцыя, але не будзе чытачоў; што з гэтага, калі будуць школы і настаўніцкая кадра, гатовая вучыць на беларускай мове, калі не будзе каго вучыць! Калі беларускае грамадства не арганізуецца, за некалькі гадоў перастане існаваць як нацыянальная меншасць. Застанецца толькі спадчына, якую варшаўскія і беларускія этнографы акрэсляць «folklorem ludu kresowego!»

**Яўген МІРАНОВІЧ.**
(«Czasopis»).

## НІКОЛІ НЕ ТРАЦІЎ ПАЧУЦЦЯ МЕРЫ І ТАКТУ

# ВЕЧНА МАЛАДЫ ПАКУТНІК

**(ДА 80-годдзя БАРЫСА МІКУЛІЧА)**

ЯГО заўважалі ў людным натоўпе, на вуліцы і ў трамваі, у тэатры і на людным вакзале: жанчыны глядзелі з замілаваннем, мужчыны — з зайздрасцю.

Трошкі вышэй сярэдняга росту, статны і лёгкі ў хадзе, прадаўгаватае ружовае аблічча, кучаравыя залацістыя валасы. Ён нагадваў маладога Блока, і не толькі знешнасцю, а прыроджанай інтэлігентнасцю, не позаю, а натуральным артыстызмам, рамантычнай захопленасцю і ўзнёсласцю. Ён любіў і ведаў класічную і сучасную паэзію і сябраваў пераважна з паэтамі, а пісаў прозу, паэтычную, трошкі расквечаную, часам рытмізаваную.

У наш час некаторыя так званыя вершы нагадваюць салдацкую хаду па мосце. А рытм неабходны скрозь, як рытмічнасць сэрца і дыхання, як узмахі крыла, як хада некульгавага чалавека. Арытмія — хвароба, распад, пагібель. Успомніце прозу Тургенева або Буніна: у кожным сказе нельга пераставіць ніводнага слова, у іх непарушная інтанацыя, глыбокае дыханне.

У 20—30 гады асобныя празаікі часам злоўжывалі залішняй рытмізацыяй, напеўнасцю, як у «Абразках» Бядулі, у творах Арцёма Вясёлага, у ранніх апавяданнях Лынькова. А празаік Барыс Мікуліч ніколі не траціў пачуцця меры і такту. Яго ранняя апавяданні вылучаліся з патоку адметным стылем, лексікаю, гарадскім каларытам. Пісаў іх пятнаццацігадовы вучань Бабруйскай дзевяцігодкі. З'яўляліся яны на старонках акруговай газеты «Камуніст» і літаратурнага да яе дадатку «Вясна». Рэдагаваў іх Міхась Лынькоў.

Апавяданні Барыса Мікуліча адразу звярталі на сябе ўвагу нетрадыцыйнасцю стылю, невядомым мне ў падлеткавым узросце слоўнікам — «эцюд, варыяцыі, амаранты, фарштат, бурштын, дыяменты». Усё гэта здавалася з нейкага іншага свету. Тым часам Мікуліч заваёўваў сталічныя выданні, імя яго станавілася вядомым і папулярным.

Я сам грашыў вершамі і пасылаў іх рэдактару «Камуніста». У ліпені 1929 года з палескага Глуска прыехаў у акруговую сталіцу Бабруйск з сшытачкам саматужных сяк-так зарыфмаваных вершыкаў. Міхась Лынькоў выбраў два і сказаў аднесці іх у суседні пакой Мікулічу або Шынклеру. Праз шырокае акно падаў сноп сонечных промняў, і ў іх святле здаваліся залацістым німбам кучаравыя Мікулічавы валасы. Гэта была першая сустрэча. Ніхто тады з нас і не здагадваўся, як перапляцецца наша трагічнае жыццё.

У 1930 годзе я прыехаў у Бабруйск, каб быць бліжэй да мясцовых літаратараў. Наняўся чорнарабочым у беладрэўны цэх лесакамбіната. Але ні Лынькова, ні Мікуліча ў горадзе ўжо не было: абодва пераехалі ў сталічнае Дзяржаўнае выдавецтва. Я змяніў некалькі закуткаў у прыватных дамках і нарэшце прыбіўся на Мінскую вуліцу ў дом, які некалі належаў бацькам Барыса Мікуліча. На тапчанах з аполак у вялікім пакоі месцілася большая частка літаратурнай Бабруйшчыны — Цімох Крысько (Васіль Вітка), Яўхім Кохан, Рыгор Бахта і мажны блізарукі нястомны чытальнік зарубежных і айчынных раманаў Барыс Шышло. Знайшлося месца і мне. І зажылі мы дружным, вясёлым і заўсёды галодным братэрствам. Нашаю гаспадыняю была незамужняя стрыечная сястра Мікуліча — Вера Антонаўна.

За печчу на кухні з ласкі дажывала век немка, здаецца, звалі яе Эрнай. У 1918 годзе яе прывёз з сабою нямецкі афіцэр і пасяліўся ў гэтым доме. Пры адступленні пакінуў сваю каханку ў чужым горадзе, без мовы і сродкаў да існавання. Злітасціваліся над ёю Барысавы бацькі — фельчар і акушэрка мясцовай бальніцы, узялі ў санітаркі і пакінулі ў сваім доме. Яна перажыла сваіх гаспадароў і звекавала на кухні. Часта з гора напівалася дэнатуратам, празваным «каньяком тры костачкі», горка плакала і спявала тужлівыя песні сваёй рэйнскай стараны.

Родныя сёстры Барыса толькі наездам бывалі ў бацькоўскім доме. Старэйшая — Кацярына Міхайлаўна пасля Маскоўскай кансерваторыі стала опернаю спявачкаю, недзе служыла Тамара, Жэня настаўнічала ў Парыцкім раёне, часцей за ўсё пры ёй жыла малодшая бялявенькая Маруся. Барыс і сёстры яе звалі ласкава Муркаю.

Амаль усе пісьменнікі — дзеці вёскі — далікатнага, інтэлігентнага і дасведчанага Мікуліча лічылі забяспечаным «пестунком». Але ніхто не здагадваўся, што яго бацька Міхал Вікенцевіч — вясковы хлопец з Церахавіч на Лагойшчыне ў войску стаў санітарам, самавукам авалодаў асновамі медыцыны і атрымаў у Бабруйску пасаду фельчара. Каб утрымацца на пасадзе, амаль у пяцідзесяцігадовым узросце экстэрнам здаў экзамены за курс мужчынскай гімназіі.

У той час фельчар і акушэрка маглі забяспечыць сябе і пяцёра дзяцей, даць усім асвету, пакінуць ім у спадчыну дом і шафу кніг з рускай і зарубежнай класікай.

Як толькі навучыўся чытаць, Барыс не разлучаўся з кнігамі, ён да ўсяго даходзіў сваім розумам і нястомным чытаннем, прагаю да ведаў. У школе быў лідэрам: выдаваў рукапісны часопіс, кіраваў драматычным гуртком, іграў галоўныя ролі ў школьных спектаклях, быў адным з першых вучняў.

Пасля смерці бацькоў ён з малодшаю сястрою жыў на пенсію 25 рублёў на месяц, зведалі голад і холад, не заўсёды апранутыя і абутыя, але духоўна багатыя на ўсю Мінскую вуліцу.

Пераехаўшы ў Мінск, Барыс працаваў стыльрэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве пад началам Міхася Лынькова, а потым і сам стаў загадчыкам рэдакцыі мастацкай літаратуры. Ён даволі часта на дзень-два прыязджаў адведаць сясцёр, шчыра і шчодра клапаціўся пра іх, а яны ганарыліся сваім братам. Нам Барыс расказваў мноства сталічных літаратурных навін, як і чым жывуць Купала, Бядуля, Зарэцкі, Крапіва і яго лепшыя сябры Ліхадзіеўскі, Таўбін, Астапенка, Куляшоў. Ведаў, што друкуецца ў бліжэйшых нумарах «Маладняка», «Узвышша» і «Полымя», якія выходзяць новыя кніжкі. Мы слухалі і з зайздрасцю глядзелі на сталічнага «мэтра». Калі ж ён прывёз сігнальны экземпляр сваёй першай кнігі апавяданняў «Удар», яшчэ больш вырас у нашых вачах.

Мінск бурліў літаратурнымі страсцямі: арганізацыі, суполкі, групы і групкі бясконца спрачаліся на дыспутах за свой прыярытэт, за «адзіна правільны накірунак», за «высокаідэйную платформу», пісалі «маніфесты» і бязлітасна крытыкавалі сваіх праціўнікаў. Каб нанесці мацнейшы ўдар, прыдумлялі і прыпісвалі ідэалагічныя хібы. Пісалі, гаварылі і не разумелі, што праз некаторы час іх артыкулы і беспадстаўныя абвінавачванні стануць даносамі, крымінальнымі абвінавачваннямі і пагоняць крытыкаваных ды і саміх крытыкаў па беззваротных дарогах у Курапаты, у Сібір і на Калыму.

А тады мы жылі наіўнаю вераю ў недалёкае шчасце, рамантычнымі спадзяваннямі і ружовымі марамі, імкнуліся ў сталіцу, каб далучыцца да беларускага «алімпа», што быў на Савецкай вуліцы ў нязграбным шэрым доме № 68. Пасля хваробы на брушны тыфус і я падаўся на пошукі шчасця ў Мінск. Міхась Лынькоў і мяне прыстроіў карэктарам у выдавецтва. З ніжэй сярэдняй глускай адукацыяй на большае я ніяк не цягнуў. І карэктар з мяне, як кажуць, быў ахавы.

Выдавецтва займала апошні паверх вялікага старога дома на рагу Камсамольскай і Савецкай вуліц, там, дзе цяпер будынак КДБ. Стыльрэдактары і карэктары сядзелі ў адной напалову зашклёнай выгарадцы, у кутку пры акне быў стол галоўнага моўнага аўтарытэта Міколы Якаўлевіча Байкова. Высокаадукаваны і эрудзіраваны, рускі па паходжанні, вучоны быў невычэрпнаю крыніцаю моўнага багацця. Усе складаныя пытанні вырашаў толькі Байкоў — знаўца гісторыі нашай літаратуры, педагогікі, аўтар многіх падручнікаў і грунтоўнага «Расейска-беларускага слоўніка». У гэтым жа пакоі працавалі Барыс Мікуліч, Міхась Багун, Таццяна Бандарчык, Юля Жыдовіч, Вольга Сакалоўская, Жэня Перская. Памойму, усе дзяўчаты гэтага пакоя былі закаханыя ў Барыса, а ён з усімі быў роўны, уважлівы і далікатны. Жыў ён адзін у прыватным пакойчыку на рагу завулка Бязбожніка і Галантарэйнай (цяпер Бядулі) вуліцы. Калі часам Барыс хварэў, у парадку «прафсаюзнай увагі»

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

Ул. СЫРАКОМЛЯ

# МІНСК

## МІНСК ЯК НАМЕСНІЦТВА

Працяг. Пачатак у №№ 29—31.

Абышлі мы могільнік, цудоўна заценены дрэвамі. Агледзелі пару грабніц і некалькі прыгожых помнікаў, але, як староннi прышэлец, не хацеў абражаць я праху мёртвых, незнаёмых мне людзей халодным пералікам іх прозвішчаў, першы раз з помнікаў даведваючыся, што жылі яны на гэтым свеце. Шукаў даўнейшыя помнікі, шукаў імёны, вядомыя ў краі, але ўсё гэта мне чамусьці не ўдавалася. Абыякава мінаў магілы людзей, можа, і вельмі заслужаных сярод сваіх родных, сяброў і землякоў. Баяўся абразіць невядомую мне дабрачыннасць або заслугу. Чалавек чужы, з сухімі вачыма і халодным сэрцам, я адчуваў тут сябе не на сваім месцы — і саромеўся свае нячуласці. Дзеля абуджэння ў сабе цікавасці да гэтых астанкаў, памяць пра якіх святая для гэтулькіх тутэйшых людзей, ставіў сябе на месца іхніх бацькоў, дзяцей, мужоў, каханкаў або землякоў; пакутаваў іх болем, верыў усім сэрцам у праўдзівасць заслуг і шчырасць жалю, выпісаных на помніках, бо, не ведаючы ані тых, што памёрлі, ані тых, што асталіся, якое ж права меў не верыць?

Шарэла. У капліцы зазванілі на імшу па ўмёрлых. Шэпчучы пацеры, пакінулі мы могільнік, даўшы напаследак невялікую міласціну тутэйшай жабрачцы, якая запэўнівала нас, што памоліцца «за здароўе нябожчыкаў».

III

### МАРАЛЬНЫ БОК. — АСЯРОДКІ АСВЕТЫ. — ДАБРАЧЫННЫЯ ЎСТАНОВЫ.

Здзіўляецеся, можа, што ў першым раздзеле, старанна пералічваючы крамы ў Мінску, не нагадалі вам ані пра адну кнігарню. Прамінулі мы там гэтую галіну гандлю наўмысна, каб пасля пагаварыць пра яе шырэй. У Мінску ёсць дзве малыя жыдоўскія кнігарні, з якіх адна пачынае выдаваць творы за кошт аўтараў. Але несправядліва было б думаць, што гэтыя сціплыя кнігарні цалкам задавальняюць патрэбы тутэйшай грамадскасці.

Мы самі перад тым, як лепей пазнаёміцца з Мінскам, былі тае ж думкі, але, сустракаючыся скрозь з людзьмі, для якіх кніга не чужая, бачачы невялікія, але пастаянныя прыбыткі, якія маюць віленскія бібліяфілы ў Мінску, завязаўшы тут асабістыя літаратурныя стасункі з Варшаваю, Пецярбургам і нават з замежжам,— з прыемнасцю пераканаліся, што чытанне стала ўжо тут жыццёваю патрэбаю. З-за далікатнасці не ўдаючыся ў пералік асоб, не можам, аднак, не сказаць пра некалькіх уладальнікаў заможных бібліятэк, з якіх ахвотна выдаецца духоўны падмацунак тым, хто яго патрабуе. Мог бы назваць некалькі ўлюбёных у сваю справу ўладальнікаў рэдкіх твораў, цудоўных карцін і старажытных збораў, некалькі мясцовых літаратараў, мастакоў, музыкантаў,— а суседства такіх людзей не можа не ўплываць станоўча на іншых, тым больш, што ў Мінску паміж людзьмі, улюбёнымі ў навуку і ў мастацтва, заўважыў я больш згоды, а не групаўшчыны. Зрэшты, друкарня І. Дворца, што колькі гадоў існуе і заўсёды завалена працаю, зусім неблагая літаграфія Фалька сведчаць, што тут, калі не квітнее, то, прынамсі, пастаянна развіваецца духоўнае жыццё. Калі ж ёсць неабходнасць абавязкова зрабіць папрок мінскай грамадскасці, то ў душы маем адзін, а менавіта: засмуціла нас вельмі слабая зацікаўленасць мясцовым тэатрам, гэтаю цудоўнаю забаваю адукаваных людзей, да якой, аднак жа, замала цяпер праяўляецца ўвагі. Калі ж мінскі тэатр не адпавядае патрабаванням грамадскасці, то рост яго аўтарытэту залежыць ад яе самой: без старання і апантанасці святыня Таліі ані развівацца, ані пашыраць свайго ўплыву не можа.

На гэтых некалькіх словах павінны мы перапыніць сваю гаворку пра тое, што датычыць адукацыі людзей дарослых. Кінем цяпер позірк на лічбу існуючых навуковых устаноў для моладзі і колькасць вучняў у іх. Мінск мае:

1. Пачатковую, або парафіяльную школу, і ў ёй—каля 80 вучняў.

2. Школу для пачатковага навучання бедных дзяўчынак, вучаніц — 30.

3. Дваранскую павятовую школу, вучняў — 150.

4. Павятовую школу для грэка-расейскага духавенства, вучняў — 110.

5. 6. Дзве дзяржаўныя школы для ізраільцян, вучняў — 85.

7. Гімназію, штогод вучняў каля — 400.

8, 9, 10, 11. Чатыры прыватныя жаночыя пансіёны, вучаніц — 260.

12. Рымска-каталіцкую семінарыю, вучняў — 80.

13. Грэка-расейскую семінарыю, вучняў — 130.

Усяго 1 285 вучняў.

Там, дзе ў трынаццаці навучальных установах выхоўваецца штогод каля паўтары тысячы хлапчукоў і дзяўчынак усіх веравызнанняў, ні ў якім разе нельга абвінавачваць грамадскасць у абыякавасці да асветы. Лічба гэтая не пасарамаціць Мінска перад Вільняю, дзе штогадовая колькасць выхаванцаў складае каля 2 270 чалавек, але ўлічым, што Вільня — сталіца Літвы, што там выхаваўчых устаноў — 24, што ў Вільні на паўтрэці больш насельніцтва, чым у Мінску, што ў той жа час у Віленскай губерні няма другой гімназіі, у Мінскай жа Слуцкая гімназія забірае моладзь з чатырох ці нават з пяці заходніх паветаў.

Пяройдзем цяпер да дабрачынных устаноў у Мінску. Тут таксама даверымся яскраваму сведчанню лічбаў.

1. Дабрачыннае таварыства, заснаванае ў Мінску, дзякуючы намаганням біскупа Дадэркі, налічвае 70 чал.

2. Шпіталь, заснаваны на тое ж ахвяраванне,— 106 чал.

3. Гарадскі лазарэт — 547 чал.

4. Псіхіятрычная бальніца — 27 чал.

5. Аддзяленне невылечна хворых — 10 чал.

6. Дом для старых шляхетных жанчын — 14 чал.

7. Дзіцячы прытулак — 90 чал.

8. Жыдоўскі лазарэт — 1 279 чал.

9. Шпіталь пры лазарэце — 50 чал.

10. Вайсковы лазарэт, у якім у 1854 годзе лячылася — 5 213 чал.

Ва ўсіх дабрачынных установах — 7 406 чал.

Так, больш-менш дакладна азнаёміўшыся з агульным станам Мінска, пяройдзем да апісання хронікі яго мінулага.



### ДРУГІ ПЕРЫЯД

**НЕДАХОП ЗВЕСТАК ПРА ПЕРШЫЯ ГАДЫ ГЭТАГА ПЕРЫЯДУ. — НАМЕСНІКІ. — КАЗІМІР ЯГЕЛОНЧЫК ЗАЛІЧВАЕ МІНСК У ШЭРАГ ВЯЛІКІХ ГАРАДОЎ. — ЦАР АЛЯКСАНДР НАДАЕ НЯМЕЦКАЕ ПРАВА. — ПЕРШЫ МАНАСТЫР. — СПУСТАШЭННЕ МІНСКА ТАТАРАМІ. — МІНСК АСАДЖАЕ ГЛІНСКІ. — ЗЫГМУНТ І АДПАЧЫВАЕ Ў МІНСКУ. — УСТАНОВЫ. — ПАБОРЫ. — ДВА НАШЭСЦІ РАСІЯН. — НОВЫЯ СВАБОДЫ МЕСТА.—ДЗВЕ ЗГАДКІ ПРА ЯГО АД ПЕРЫЯДУ ВОЙНАЎ ЗЫГМУНТА АЎГУСТА З ІВАНАМ ГРОЗНЫМ. — ПОЛЬСКІ КАРОЛЬ У МІНСКУ.—СЛОЎЦА ПРА ЦАРСКІХ НАМЕСНІКАЎ І СТАРАСТАЎ. — ЛЮБЛІНСКАЯ УНІЯ. — МІНСК СТАНОВІЦЦА СТАЛІЦАЮ ВОЛАСЦІ.**

Змрок часу, а яшчэ больш ваенных пажараў засланіў ад вачэй гісторыі мінулае большай часткі літоўскіх гарадоў. Размешчаныя блізка ад Польшчы, з якою суджана ім было перажываць палітычны лёс, або ўзведзеныя на скрыжалях велікакняжацкіх шляхоў, ці тыя, што мелі важнасць, дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу, хутка раслі яшчэ і таму, што пільнае вока Ягайлы ці Вітаўта, часта іх бачачы, ацэньвала іх важнасць і патрэбы. Спрыяльныя часіны міру дазвалялі гэтым гарадам развівацца ўсё лацвей. Аднак гарады, што не мелі такіх выгод і былі адсунуты ў апошнія гады XIV стагоддзя ў шэраг другарадных, раслі надзвычай марудна — жылі будзённым жыццём, і ніводзін летапіс не занатаваў нават хвіліны гэтага існавання. Так сталася і з Мінскам у перыяд паяднання Літвы з Польшчаю. Пад актам Гарадольскай уніі ў 1413 годзе не падпісаўся ніводзін з тутэйшых чыноўнікаў; у тагачасных і трохі пазнейшых статутах для жыдоў, што жылі ў літоўскіх гарадах, Мінск не ўпамінаецца, і гэта таксама лішні раз даказвае, што места было толькі другарадным намесніцтвам ці, можа, удзельным княствам з пэўнай незалежнасцю, пакінутай нашчадкам заслаўскім князем, стрыечным братам Ягайлы і Вітаўта, Яўнутам, якому Альгерд і Кейстут выдзелілі суседняе Заслаўе. Ведаем, што сын Яўнуты, заслаўскі князь Міхал, пасля ўступлення Уладзіслава Ягайлы на польскі трон прынесіў яму прысягу ў Кракаве «за сябе і за сваіх» (меў двух братоў); прысяга гэта была хутчэй не асабістая, а васальная — ад княства. Праз сто гадоў пасля гэтае прысягі, г. зн. каля 1513 года, пляменніка таго ж Міхала, Багдана Іванавіча, заслаўскага князя, бачым ужо мінскім намеснікам. Мяркуем таму (але гэта толькі здагадка), што ажно да згасання мужчынскага роду заслаўскіх князёў, згаданых нашчадкаў Яўнуты (у канцы першай паловы XIV стагоддзя), Мінск з ваколіцамі мог належаць да іх намесніцтва, маючы пэўную ўдзельную незалежнасць. Аднак гэта толькі здагадкі: не толькі пра ўладу ў гэтым краі, але і пра сам горад ажно да 1441 года нічога невядома. У згаданым годзе Казімір Ягелончык, вялікі літоўскі князь (яшчэ да ўступлення на трон), прывілеяй, выдадзенаю ў Бярэсці Літоўскім (у пятніцу, пасля Белай нядзелі), аднёс Мінск да тых важнейшых літоўскіх гарадоў, якім надаў пэўныя свабоды*.

Не ведаем, у якой ступені слушны довад вучонага Язэпа Ярашэвіча, быццам гэтыя гарады былі перад тым ужо надзелены магдэбургскім правам. Нам жа, аднак, здаецца, што падобнае дапушчэнне ў адносінах да Мінска зроблена зарана. Бо прывілея, якую надаў Мінску Аляксандр Ягелончык, мае ўласцівасць першапачатковага надзялення згаданымі правамі. Тут ужо ёсць магчымасць шырэйшага развіцця гарадской адміністрацыі. Прызначаецца войт з судоваю ўладаю і адпаведнаю аплатаю. Жыхары ўжо маглі не даваць падводаў, вызваляліся ад вартавання ў замку, хіба толькі па загаду самога вялікага князя Літвы, заверанаму яго ўласнаю пячаткаю. Дазвалялася таксама браць на будаўніцтва і апал дрэва з бліжэйшых велікакняжацкіх лясоў, збудаваць млын на рацэ Свіслач, узвесці ратушу і крамы. Атрымаў Мінск і ўласную меру і вагу, якім падпарадкоўваліся прыезджыя купцы, акрамя, праўда, віленцаў. Меў Мінск і кляймо, якім значыліся мясцовыя тавары для гандлю. Маюцца на ўвазе воск, смала і попел, прызначаныя на вываз. Навакольныя гарады, акружаныя непраходнымі лясамі, маглі прадукаваць і прадаваць толькі тое, што даваў лес. Дзенідзе раскіданыя па лясных расцяробах вёскі з цяжкасцю збіралі збожжа, неабходнае самому гораду. Зрэшты, апрача гандлёвых свабод, шырока апісаных у гэтай прывілеі, не сустракаем нават следу іншых, апрача будаўніцтва гарадской лазні, бо і ў мінулым, аказваецца, парадак у нашых гарадах ніколі не быў важным прадметам клопату. Ды і само места, зрэшты, было яшчэ невялікім, і велікакняжацкі падскарбій мог сабраць тут толькі недзе каля шасцідзесяці коп тагачасных грошаў даходу.

Зрэшты, і па прычыне свайго размяшчэння — у глыбіні краю — не мела места значнай палітычнай альбо гандлёвай важнасці, не мела яно і ўмоў, якія прыспешвалі б развіццё.

Што мог, зрабіў для горада Аляксандр апісанаю прывілеяй. Жонка ягоная, Ганна, едучы з Масквы ў Вільню (з бацькоўскага дому ва ўладанні свайго мужа), спынялася ў Мінску і малілася там у мінскай Вазнясенскай царкве. Тады яна, відаць, і падаравала базыльянам, што былі пры гэтай царкве, сваё памесце Трасцянец, а самому кляштару надала годнасць абацтва, якое муж яе, стаўшы польскім каралём, і зацвердзіў 7 сакавіка 1502 года. У тым жа годзе ў жніўні кароль Аляксандр сам быў у Мінску.

У першыя гады XVI стагоддзя бачым Мінск ужо горадам з прывілеямі, які меў крэпасць, каталіцкі касцёл, грэчаскую царкву, ратушу, млыны. А так як стаяў ён на гандлёвым шляху паміж Літвою і Расеяю, то займеў ужо мажлівасць для росквіту. Але гарады нашы рэдка калі маглі свабодна развівацца з-за войнаў, ад якіх край пастаянна пакутаваў.

У 1506 годзе орды татараў, спусташаючы Літву, дайшлі і сюды. Мінск (апроч замка) быў спалены, а эпідэмія чумы вынішчыла нешматлікіх яго жыхароў.

Вядомы ў гісторыі князь Міхаіл Глінскі вялікаю перамогаю пад Клецкам вызваліў Літву ад пажараў і татарскіх мячоў, але праз два гады сам стаў ворагам і заваёўнікам уласнай зямлі. Пасля забойства Забярэзінскага, не спадзеючыся на літасць караля Зыгмунта І, падаўся нібыта пад апеку Расіі, але ў глыбіні душы хаваў надзею на панаванне ў старажытным Кіеўскім княстве. Неўзабаве з расейскім войскам уварваўся Глінскі ў Літву: маскоўскія ваяводы, князі Шамякі, Адоеўскія, Трубяцкія, Варатынскія паспяшаліся да яго, беручы крэпасці і спусташаючы Літву аж да Вільні. Асадзілі Мінск, узмоцнены каралеўскім гарнізонам, і намагаліся ўзяць крэпасць. Атрымаўшы вестку аб гэтых спусташэннях, Зыгмунт І праз Бярэсце, Слонім, Навagрадак спяшаецца ў Літву, збірае літоўскіх рыцараў, папаўняе войска аселымі татарамі і накіроўваецца пад Мінск.

* Дубенскі. «Збор праў і прывілеяў места Вільні». Там былі пералічаны такія гарады, як Вільня, Трокі, Полацк, Віцебск, Смаленск, Кіеў, Жытомір, Слуцк, Наваградак, Луцк, Бярэсце, Драгічын, Коўна, Гародня.

## НІКОЛІ НЕ ТРАЦІЎ ПАЧУЦЦЯ МЕРЫ І ТАКТУ

# ВЕЧНА МАЛАДЫ ПАКУТНІК

**(ДА 80-годдзя БАРЫСА МІКУЛІЧА)**

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

ўсе жанчыны стыльрэдакцыі кармілі, лячылі і даглядалі яго. Часам здараліся канфузы, калі нечакана сыходзіліся дзве, а то тры наведвальніцы.

Аднаго дня мы разам з Барысам ішлі дадому. Я жыў побач, на Чырвоназорнай вуліцы. «Давай зойдзем да мяне», — прапанаваў Барыс. У яго мезанін мы ўскараскаліся па крутой вузенькай лесвіцы. Цяжка ўявіць, як па ёй можна ўнесці стол або ложак ці размінуцца з сустрэчным. А пакой быў прастарнаваты і светлы. Шырокае акно выходзіла на Вайсковыя могілкі, а за імі ледзь не адразу пачыналася жытнёвае поле, а ў канцы цямнеў лес. Пры акне стаяў стары пісьмовы стол, каля сцяны — цвёрдая канапка, этажэрка з кнігамі і два крэслы—усё неабходнае пісьменніку. Тут на доўгіх вузенькіх аркушках паперы пісаў ён свае аповесці, артыкулы, рэцэнзіі, актуальныя апавяданні.

Адна за адною выходзілі з друку кнігі Барыса Мікуліча — «Чорная вірня», «Яхант», аповесці «Ускраіна», «Наша сонца», «Дужасць». Выдавецкая сістэма не была падобная на сучасную. Усё вырашалася проста: прынёс аўтар рукапіс сакратару выдавецтва Суханаву, ён яе пасылаў палітычнаму рэдактару — рэктару Камвуза або работнікам ЦК. Заключэнні былі самыя кароткія: «Палітычных памылак няма. Можна выдаваць». Рукапіс ішоў у карэктарскую, тэхнічнаму рэдактару (адзін час ім працаваў Купала) і — у набор. Праз два-тры месяцы з'яўлялася кніга. Цяпер тыя выданні выглядаюць вельмі прымітыўна, але выходзілі, іх куплялі, за многімі ў бібліятэках былі чэргі.

Часта ў студэнцкіх аўдыторыях, маладзёжных клубах і інтэрнатах наладжваліся абмеркаванні, дыспуты і «суды» над героямі новых кніг. Асабліва шмат рэцэнзій і дыспутаў было па аповесці Мікуліча «Наша сонца». Працавітасць маладога празаіка была сапраўды «бальзакаўская», ён пісаў начамі, без выхадных дзён, быў повен задум і планаў, спяшаўся, нібыта адчуваў, што наканаваны яму кароткі век. У яго не было дзвюх падобных па манеры і стылістыцы кніг, ён бясконца эксперыментаваў, шукаў новыя формы, узбагачаў лексіку.

Калі пачала ў 1932 годзе выдавацца «Літаратура і мастацтва», Барыс пайшоў працаваць адказным сакратаром рэдакцыі новай пісьменніцкай газеты. Са школьнай пары ён захапляўся тэатрам, цяпер не прапускаў ніводнай прэм'еры ў Першым БДТ (цяпер імя Купалы), ні ў Тэатры рабочай моладзі, ні ў яўрэйскім, ні ў польскім тэатрах, пісаў на спектаклі прафесійныя рэцэнзіі, тэатральныя агляды, сябраваў з выдатнымі акцёрамі Ждановіч, Платонавым, Уладамірскім, Зоравым, Міровічам. Дзіву даваліся, калі ён паспявае пісаць артыкулы для «ЛіМа», «Чырвонай змены», «Маладняка» і «Полымя» празаічныя творы, якіх не абміноўвалі чытачы.

Некаторы час працавала ў кансерваторыі і кватаравала разам з Барысам старэйшая сястра Каця. Да яе прыходзілі спевакі і спявачкі, і на мікулічаўскай «галубятні» часта гучалі оперныя арыі, рамансы і новыя песні. На хатнія канцэрты прыходзілі Барысавы сябры — Ліхадзіеўскі, Таўбін, Блісцінаў, Скрыган, Півавараў, малады крытык Пеця Хатулёў. І мне даводзілася неаднойчы бываць на гэтых пасядзелках. Пасля вакалу паэты чыталі свае і чужыя вершы — Пастэрнака, Ціханава, Лугаўскога, Багрыцкага і таленавіцейшага Паўла Васільева. Спрачаліся пра манеру пісьма Пільняка і Юрыя Алешы, пра новыя апавяданні Лукаша Калюгі. Кацярына Міхайлаўна падавала свежы чай. Пілі яго з ружовымі цукеркамі «падушачкамі» па-купецку, са сподкаў, спаборнічалі ў каламбурах і досціпе.

Барысавы сябры часта дзівіліся, адкуль ён, гарадскі чалавек, так добра адчувае стыхію народнай мовы, яе багацце і каларыт. А ён не любіў расказваць пра сябе і пра радню. Некалі ў раннім юнацтве асірацелы Барыс кожнае лета ездзіў да бацькавай радні на Лагойшчыну. Разам з усімі гроб сена, збіраў зелле, вазіў снапы, ездзіў на начлег. Адтуль ішло веданне характараў, лёсаў, мовы герояў будучых кніг. З Лагойшчыны прыйшоў у літаратуру самы жывы і складаны вобраз Вінцэся Шастака, у некаторай ступені спісаны з блізкага родзіча аўтара, ды і характары партызан вайны 1812 года з незавершанага рамана «Адвечнае» перакліканіся з партызанамі Лагойшчыны часоў фашысцкага нашэсця.

У аўтабіяграфічнай «Аповесці для сябе» Мікуліч расказвае пра духоўную сувязь з зямлёю бацькоў: «Далучэнне да прыгажосці прыроды было ў раннім юнацтве, калі я ездзіў у Церахавічы да стрыечных братоў. Найбольш доўгім было наведванне ў 1929 годзе, калі я прыгожае спалучаў з карысным — хадзіў, слухаў беларускую мову, запісваў народныя песні, і ў гэтым мне найбольш дапамог мой стрыечны брат і друг — Антось...»





**Два здымкі аднаго і таго ж чалавека, але які ён розны на іх. Першы зроблены ў Бабруйску, другі ў сяле Машукоўка Краснаярскага краю.**

Ёсць аўтары, якія навучыліся закручваць сюжэты, налаўчыліся гладка выказваць банальныя думкі і, вядома, актыўна друкавацца, а не будуць друкаваць, кінe пісанне і зоймецца больш выгаднаю работаю. А ёсць пісьменнікі, якія не могуць не пісаць. Літаратура стала іх лёсам, душэўнаю патрэбаю, іх радасцю і болем. Такі быў Барыс Мікуліч. Калі «кляймёнага» аўтара «Нашага сонца» забаронена было друкаваць і ўспамінаць нават яго імя, ён апантана пісаў кожную ноч і стварыў свае лепшыя кнігі.

А бяда і трывога пачаліся з вясны 1933 года. Гэта былі сапраўды «варфаламееўскія ночы». Вельмі аператыўна «чорныя вораны» падабралі Міколу Нікановіча, Апанаса Сідарэнку, Лукаша Калюгу, Максіма Лужаніна, Юлія Таўбіна, Змітрака Астапенку, Уладзіміра Сядуру і зусім маладых паэтаў Сяргея Астрэйку, Кліма Грыневіча, Змітрака Віталіна, Алеся Пруднікава. Асабліва ўразіў Мікуліча арышт яго самага блізкага друга, сакратара пісьменніцкай камсамольскай ячэйкі — паэта Сцяпана Ліхадзіеўскага, няўрымслівага грамадскага дзеяча, аўтара самых ідэйных кніг.

З гэтага часу трывога нарастала з кожным днём. Пад дэвізам пільнасці недавер нават блізкім сябрам даходзіў да абсурду, кожны адчуваў сябе «прасвечаным» штодзённым наглядам даносчыкаў і «стукачоў». Манія праследавання станавілася масаваю хваробаю, скалечыла на ўсё жыццё паэтаў Віктара Казлоўскага і Ізраіля Плаўніка. Усе жылі пад прэсам страху, выходзячы з дому, развітваліся з блізкімі.

«Але самае страшнае крушэнне ілюзій надышло 25 лістапада 1936 года», — успамінае Мікуліч, калі і ён у бясконцым патоку арыштаў апынуўся ў славутай «амерыканцы» на «канвееры» Сакрэтна-палітычнага аддзела НКУС. У «Аповесці для сябе» Мікуліч маляўніча расказвае пра трагікамедыю следства і суда, пра вялікі пісьменніцкі этап у Магілёўскую перасыльную турму, пра шматкіламетровыя пераходы пад канвоем у сібірскую сцюжу, пра лагеры, дзе ён «галадаў да страшэннай цынгі і страты прытомнасці... Я рэзаў дровы і задыхаўся ад манатонных рухаў, карчаваў пні, будаваў чыгунку, грузіў лес і рэйкі, выгружаў пясок, валіў дрэвы, капаў катлаваны — і ведаю цану чалавечай працы і адчаю». («Аповесць для сябе»).

Так на самым разгоне творчага ўзлёту і папулярнасці з «ласкі» паклёпнікаў і кар'ерыстаў, тых **«лёсарубаў»**, што згубілі і скалечылі не адзін светлы талент і лёс, быў адарваны ад літаратуры і нармальнага чалавечага існавання, зняважаны і заплямлены на доўгія дзевятнаццаць гадоў малады, прыгожы і таленавіты Барыс Мікуліч.

Пасля першага вызвалення ў 1946 годзе ён атрымаў «воўчы пашпарт» і, парушыўшы забарону наведваць рэжымныя гарады, усё ж паехаў у Ашхабад, да старэйшай сястры Кацярыны Міхайлаўны. Згаладалы па любімай рабоце, з апантанаю прагаю бярэцца Барыс за пяро і пачынае пісаць гістарычны раман пра разгром напалеонаўскіх дывізій на беларускай зямлі, піша апавяданні, нарысы і вершы, чытае навінкі савецкай літаратуры, піша на іх рэцэнзіі, бярэцца за спавядальны дзённік «Аповесць для сябе».

Але гасцінны і спякотны Ашхабад не саграваў душу, яна цягнулася да роднай зямлі, у горад маленства і юнацтва, хоць і ведаў, што бацькоўскі дом згарэў у вайну, не было даху, дык было роднае неба, блізкія сэрцу людзі. І ён вярнуўся ў Бабруйск.

Стрыечная сястра мела катушок у чужым доме насупраць іх папялішча. Ні другога ложка, ні тапчана не было дзе паставіць, каб даць прытулак Барысу. Таму Вера Антонаўна нанялася начным вартаўніком у лазню, каб было брату дзе прыхіліць галаву. А яму было не да сну: удзень працаваў бібліёграфам у бібліятэцы імя Пушкіна, а начамі ў тоўстых амбарных кнігах пісаў раман «Адвечнае», збіраў матэрыял пра патрыятычнае падполле ў Бабруйску і напісаў аповесць «Цяжкая гадзіна». Адна за адною з-пад яго пяра выходзяць аповесці «Развітанне», «Зялёны луг», «Палеская аповесць», «Жыццяпіс Вінцэся Шастака». Зрэдку ў газетах з'яўляюцца яго рэцэнзіі, але толькі пад рознымі псеўданімамі. Нават імя было пад забаронаю.

Свае аповесці пасылаў у рэдакцыі мінскіх выданняў. Іх хвалілі, абяцалі друкаваць, абнадзейвалі, і... ніводная рэч не ўбачыла свету пры жыцці аўтара. А ён не адчайваўся, не пераставаў пісаць, выношваў новыя сюжэты і задумы, душа прагла актыўнай дзейнасці, любоў да літаратуры была неадольнаю. Часам яму дазвалялі выступаць з лекцыямі пра літаратуру. Яго веды, інтэлект, вобразная мова, артыстызм зачароўвалі слухачоў. У бібліятэку пацягнулася моладзь, да Мікуліча ішлі як на споведзь, дзесяцікласнікі прыходзілі на кансультацыю перад сачыненнямі, пачаткоўцы прасілі пачытаць іх пісанні. На ўсё яго хапала, у кожную гутарку, у кожную сустрэчу ён укладаў душу.

У 1947 годзе Вярхоўны Савет БССР памілаваў нас — з Барыса і з мяне знялі судзімасць, але радасць была кароткаю. У жніўні 1948 года я прыехаў у Бабруйск да Барыса. Хацелася пагаварыць адкрыта і шчыра, пра што не адважваліся пісаць у лістах. На колішнім мікулічаўскім мелішчы яшчэ стаяў абпалены сад, пасярэдзіне — будан, накрыты картафлянікам і вялаю травою. У ім мы з Барысам і прагаварылі амаль усю ноч. Задумам і планам яго не было межаў: аповесці, раманы, п'есы, апавяданні, даследаванні творчасці любімых пісьменнікаў не давалі яму спакою. У той час, не баючыся, падтрымліваў з ім перапіску вядомы рускі пісьменнік Уладзімір Лідзін. Барыс спадзяваўся, што яму ўдасца нешта пераласці і надрукаваць у Маскве, а гэта адкрые дарогу і ў беларускі друк. Ён быў і заставаўся даверлівым летуценнікам. Мне не хацелася яго расчароўваць, шкада было дарагога мне чалавека пазбаўляць веры. Толькі ад-

нойчы выказаў яму свой скепсіс: яму паабяцалі надрукаваць «Жыццяпіс Вінцэся Шастака» ў 12-м нумары «Полымя». Пра сваю радасць ён паведаміў мне, а я адпісаў: «Барыс, чакай публікацыю ў 13 нумары». Так яно і было. Праўда, «Жыццяпіс» такі з'явіўся ў «Полымі» праз адзінаццаць гадоў, калі аўтара не было на свеце.

Я ў тым будане з жалем глядзеў на пасівелыя і парадзелыя Барысавы валасы, слухаў яго глухаваты голас, пазіраў на стомлены і пастарэлы твар. Але варта было загаварыць пра літаратуру, як адразу загараліся яго вочы, ружавелі шчокі, ён станавіўся натхнёным і красамоўным. А жылося яму, ой, як складана і цяжка.

У 1948 і 1949 гадах па сакрэтнаму загаду Берыі зноў арыштоўвалі ўсіх, хто выйшаў жывым з лагера на так званую волю. У красавіку 1949 арыштавалі Барыса, у маі — мяне. Зноў праформа камедыі следства, «амерыканка», «Екацярынінская» турма, рашэнне «Особого совещания» — вечная ссылка ў Сібір. Мы з ім ледзь не сустрэліся ў Куйбышаўскай перасылцы: ён пайшоў з этапам у Краснаярскі край, а нас загналі ў зону, і я апынуўся на верхніх нарах, дзе толькі што ляжаў, як сказаў яго сусед, «белорусский писатель Борис Микулич». І тут нас лёс развёў назаўжды. Трапіў ён у сяло Машукоўку Тасееўскага раёна і прыстроіўся дыспетчарам у леспрамгасе. Але і тут яму не давала спакою яго творчая натура. Узначальваў сельскую самадзейнасць. Знаёмыя артысты прысылалі з Бабруйска п'есы, грым і парыкі. Ён пісаў частушкі і скетчы, складаў канцэртныя праграмы, а начамі працаваў над раманам «Адвечнае». Застаўся ён не закончаны і быў надрукаваны ў «Полымі» ў 1972 годзе.

У 1954 годзе, будучы яшчэ ў Сібіры, я даведаўся яго адрас і паслаў ліст. Доўга чакаў. Замест адказу прыйшло пісьмо ад малодшай Барысавай сястры Марусі, якое ашаламіла мяне: 17 чэрвеня 1954 года а 5-й гадзіне раніцы за дыспетчарскім сталом Машукоўскага леспрамгаса на 42 годзе жыцця Барыс Мікуліч памёр ад паралічу сэрца.

З цягам часу яго гаспадыня Марыя Смелякова рукапісы, здымкі і лісты пераслала сястры Мікуліча. Частка іх апублікавана. Пачынаючы з 1959 года, яго кнігі выдаваліся некалькі разоў у Мінску і ў Маскве, а многія яго творы да гэтага часу застаюцца невядомымі чытачам.

19 жніўня Барысу Мікулічу было б 80 гадоў. 38 ён не дажыў да гэтага юбілею і назаўсёды застаўся маладым нявольнікам у вечнай мерзлаце самага вялікага сібірскага могільніка.

Потым машукоўскія прыхільнікі таленавітага выгнанніка пісалі яго сястры і ў Саюз пісьменнікаў, з якім жалем усё сяло развітвалася з выдатным сынам беларускай зямлі. Машукоўцы паставілі прыстойны помнік і агароджу на яго магіле, даглядаюць яе, прыносяць кветкі, чытаюць яго кнігі, а гэта — найлепшы помнік пісьменніку.

А ў Беларусі чакаюць выдання ўсяе спадчыны вечна маладога таленавітага пакутніка Барыса Мікуліча.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

## ДАЗВОЛЬЦЕ ПРАДСТАВІЦЬ





**Мінскі цымбальны ансамбль вызначае віртуознасць выканання, ідэальная сыгранасць, шырокая палітра гукавых фарбаў. Тут удала спалучаюцца з цымбаламі скрыпкі, баяны, духавыя народныя і ўдарныя інструменты. У рэпертуары калектыву разам з нацыянальнымі мелодыямі шырока прадстаўлены творы рускай і замежнай класікі. Музыканты аднолькава бліскуча выконваюць як складаныя музычныя творы, так і жанравыя замалёўкі. Кіруе калектывам дацэнт Белдзяржкансерваторыі, кампазітар Генадзь Ермачэнкаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час канцэрта; гучыць народная песня.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

## ПЛАКЕТКІ ДЗМІТРЫЯ ЦУБЕРА

# ЧАРОЎНЫЯ КРАСКІ ПАЛЕССЯ

ПОМНІЦЦА, упершыню ў гэты маляўнічы куточак Палесся мне давялося трапіць ціхай летняй ноччу. Яшчэ досыць далёка ад Давыд-Гарадка спачатку ледзь-ледзь, а потым усё больш упэўнена ў паветры залуналі нейкія дзівосна-прыемныя, густа-мядовыя пахі. У самым гарадку водар стаў яшчэ мацнейшы. Спытаць, што гэта за пахі і адкуль яны, не было ў каго, і так да самай раніцы сакрэт заставаўся неразгаданым.

З усходам сонца крыніца таемных пахаў стала зразумелай. Усе агародчыкі ў паселішчы і нават палеткі ў наваколлі буялі разнастайнымі кветкамі. Яны раслі, нібыта бульба ці жыта, цэлымі загонамі. Адны ўжо адцвілі, другія толькі распускаліся, трэція якраз квітнелі, а ўсе разам стваралі той густа-мядовы водар, які чуваць яшчэ далёка ад гэтага старажытнага палескага гарадка.

Няўжо ў градчукоў (так завуць насельнікаў Давыд-Гарадка) такая любоў да кветак, што дзеля іх яны нават ад бульбы гатовы адмовіцца?

Усё крыху больш празаічна. Мясцовы люд, не спешчаны добрай зямлёю, здаўна шукаў, дзе б як след прыкласці сваё здольнасці. Таму і квітнелі тут розныя рамёствы, было развіта адыходніцтва, умелі градчукі і гандляваць. А паколькі на бедных мясцовых землях, як аказалася, добра растуць кветкі, то і заняліся местачкоўцы насенняводствам.

Наведайце рынак у любым горадзе, нават за межамі Беларусі, — і амаль заўсёды ўбачыце на прылаўку дзесяткі торбачак і мяшочкаў з розным насеннем. А калі з торбачак тырчаць фанерныя дошчачкі памерам з паштоўку, а на іх намаляваны тыя кветкі, якія павінны вырасці з насення, можаце не сумнявацца: за прылаўкам — градчук.

Зойдзеш, бывае, на Камароўскі рынак у Мінску — а там прадаўцоў з насеннем, асабліва пад вясну, больш за дзесятак. Пастаіш, пагаворыш, часам не ўтрымаешся, каб не пацешыцца са здзіўлення прадаўца, што з першага позірку вызначылі, адкуль ён прыехаў. Але ў такіх размовах цікавіць звычайна не сам тавар, а «нагляднасць» — маляваныя дошчачкі. На блакітным фоне спрактыкаванай рукой дакладна вымаляваны браткі, астры, гваздзікі, вяргіні і розныя іншыя кветкі, якія можна вырошчваць на нашай зямлі. Унізе—яшчэ і подпіс, назва кветкі. Відаць па ўсім, што роспісам такіх дошчачак займаюцца ў Давыд-Гарадку майстры-спецыялісты, што гэта стала нават своеасаблівым промыслам, як і вырошчванне кветак.

Праўда, рыначныя «ілюстрацыі» далёка не заўсёды вызначаюцца дасканаласцю малюнка і каларыстыкі, часам адчуваецца звычайны рамесніцкі падыход. Але калі ёсць промысел — павінны быць і добрыя майстры. Так яно і аказалася. На розных выстаўках народнага мастацтва калі-нікалі сталі з'яўляцца работы Дзмітрыя Цубера, якія і сапраўды выгадна вылучаліся і майстэрствам роспісу, і мажорнай каларыстыкай. Былі і куфэркі, і насценныя пано, і дэкаратыўныя талеркі, але часцей — традыцыйныя карцінкі з кветкамі, за якімі ўсталявалася назва «плакеткі».

...Дом Дзмітрыя Іванавіча — за сотню метраў ад берага Гарыні, якая напалам разразае амаль цалкам драўляны гарадок. На сядзібе — усё тыя ж кветкі, і хоць гаспадары насенняводствам не займаюцца, але ж «белай варонай» не будзеш. Ды і «натура» для роспісаў патрэбна.

Майстар сядзеў у невялікім пакойчыку-майстэрні, абклаўшыся дзесяткамі дошак-загатовак, на якіх гаспадыні звычайна рэжуць прадукты. На ўсіх нанесены абрысы будучага малюнка, ужо і некаторыя лісточкі замаляваны адным колерам. Відаць, майстар працуе «канвеерна»: спачатку замалёўвае адзін колер на ўсіх дошках, потым — другі. І на ўсіх — аднолькава, без ніякіх адступленняў у той ці іншы бок.

— Заказ Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў, — махае рукой Дзмітрый Іванавіч. — А ім жа трэба, каб уся партыя вырабаў была аднолькавая, дакладна па зацверджанаму ўзору. Дапусціш вольнасці — гэта ўжо брак...

Так, канвеерная, планавая вытворчасць на фабрыках мастацкіх вырабаў (хоць і займаюцца яны нібыта народнымі мастацкімі промысламі) не спрыяе сапраўднай творчасці. Вось і не атрымліваецца ў Пінскай фабрыкі належнага супрацоўніцтва з Дзмітрыем Цуберам. Зрэдку размалюе ён куфэрак ці дэкаратыўную талерку, мастацкі савет у Мінску аднагалосна ўхваліць работу — ды так і застанецца яна ў адзіным экземпляры: нецікава сапраўднаму творцу тыражаваць адно і тое ж. Гэта, пэўна, і станок можа зрабіць...

А вось на што здатны майстар, можна бачыць у яго дома. Самыя розныя куфэркі, шкатулкі, талеркі, пано — і нідзе малюнак не паўтараецца. Любіць Дзмітрый Іванавіч маляваць і традыцыйныя плакеткі. Яны ў яго нагадваюць нейкія ювелірныя мініяцюры. Фон глыбока чорны, кветкі на ім аж гараць, зіхацяць усімі колерамі.



Манера роспісу плакетак — як і ў іншых тутэйшых майстроў. Тут ужо нельга абысціся ўмоўнымі, стылізаванымі абрысамі кветак, як, скажам, на куфрах ці насценных дыванах. Тут патрэбна канкрэтнасць, дасканаласць, але пры гэтым і яркасць, і прывабнасць, як у кожнай рэкламе. Таму тутэйшыя майстры практыкуюцца ў роспісах непасрэдна на сваіх агародчыках, з натуры. І ўсё ж народная трактоўка праяўляецца і тут, яўны натуралізм адсутнічае. Кветкі рэдка падаюцца ў ракурсах, часцей паказваюцца зверху ці збоку, як мага нагляднай, пры гэтым дакладна вымалёўваецца форма лістоў і пялёсткаў. Няма і лакальных колераў, як на куфрах. Тонкія дакладныя мазкі перадаюць і гульню фарбаў, і лепяць аб'ём. Творы яркія, дэкаратыўныя, яны ствараюць адчуванне асаблівай жыццёвай сілы палескай прыроды.

Найбольш выразна гэта відаць у творчасці такога майстра, як Дзмітрый Цубер. Яркія, сакавітыя, нібыта аб'ёмныя кветкі вырастаюць з гаршчочкаў на карцінках-пано ці ўсцілаюць маляўнічым дыванам вечкі і сценкі куфэркаў. У характары малюнка адчуваецца нейкае аддаленае падабенства ні то са славутымі жостаўскімі падносамі, ні то з украінскімі карцінкамі. Урэшце, нічога дзіўнага. Дзмітрый Іванавіч добра дасведчаны ў дасягненнях народнага мастацтва суседзяў, чытае розную літаратуру, бывае на выстаўках. Таму і сінтэзуюцца ў яго творчасці як мясцовыя традыцыі, так і некаторыя дасягненні майстроў роспісу суседніх рэспублік.

І ўсё ж мясцовага больш. Глядзіш на роспісы Дзмітрыя Цубера, а перад вачыма — давыд-гарадоцкія агародчыкі, поўныя кветак. І ўспамінаецца дзівосны водар, які з вясны да восені лунае ў наваколлі гэтага каларытнага палескага гарадка.

**НА ЗДЫМКУ: Д. ЦУБЕР са сваімі творамі.**

**Яўген САХУТА.**

**Фота аўтара.**

## ФОТАРЭПАРЦЁР УГЛЕДЗЕЎ







Твары мінчан.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ Ў БАРСЕЛОНЕ

# НА СТАРЦЕ НЕ ЗАСЯДЗЕЛІСЯ

У Барселоне пачаліся Алімпійскія гульні. З далёкай Іспаніі ў Беларусь прыходзяць штодзень прыемныя весткі: пасланцы нашай рэспублікі заваёўваюць высокія ўзнагароды.

А пачатак ім паклаў стралок з Гродна Канстанцін Лукашык. Спартсмен малавядомы, які і пуцёўку ў Барселону, можна лічыць, атрымаў ў апошні момант. Вось тут аддадзім належнае трэнерскаму савету зборнай СНД, за якую сёлета выступаюць прадстаўнікі Беларусі: адбор на паездку ў Іспанію праводзіўся больш справядліва, чым у мінулыя гады. Галоўным крытэрыем тут былі не званні, не мінулыя заслугі, а паказчыкі сённяшняга дня. Перамагаў на спаборніцтвах, устанаўліваў рэкорды — табе і пуцёўка на Гульні.

Дарэчы, і ў Сеуле першы залаты медаль у скарбонку тады яшчэ Саюза прынесла стралок з Гродна Ірына Шылава.

На старонках газет і на экранах тэлевізараў даюцца выніковыя табліцы пасля заканчэння чарговага дня Алімпіяды. На самым версе першы радок займае зборная СНД, якая набрала найбольшую колькасць медалёў. І вось што падумалася: «А калі б на гэтых Гульнях рэспубліка Беларусь выступала тут асобнай камандай? Які радок займала б у той табліцы?» Упэўнены, што няхай і не ў тройцы прызёраў, але ж стаяла б уверсе, апярэдзіўшы многія зборныя свету.

Чаму такая ўпэўненасць? Арыфметыка простая: акрамя Канстанціна Лукашыка, «золата» у Барселоне ўжо заваявалі мінчанка Святлана Багінская (гімнастыка), гамяльчанка Алена Рудкоўская (плаванне), сярэбраныя медалі ў Ігара Астапковіча з Гродна (кіданне молата) і ў мінчанкі Наталлі Шыкаленка (кіданне кап'я), бронзавы — у мінчаніна Сяргея Дземяшкевіча (барацьба)...

Але асабліва вызначыўся гімнаст са сталіцы Рэспублікі Беларусь чэмпіён свету Віталь Шчэрба. Спачатку ён атрымаў залаты медаль за камандныя спаборніцтвы, пасля стаў пераможцам у абсалютным заліку і, нарэшце, чатыры разы быў мацнейшым у асобных практыкаваннях.

А гэта ж толькі пачатак Алімпіяды. Яшчэ цэлае сузор'е выдатных спартсменаў нашай рэспублікі чакае сваёй чаргі.

Удалы старт зборнай СНД літаральна ашаламіў сапернікаў. Асабліва спартыўнага гіганта і нашага найбольш грознага канкурэнта — зборную ЗША. Бо як, напрыклад, растлумачыць фіяска амерыканцаў у плаванні? У гэтым відзе ва ўсіх мінулых Гульнях яны «збіралі» найбольшую колькасць залатых медалёў.

Аб'ядналая каманда (так называюць у Барселоне зборную СНД), можна лічыць, перасягнула саму сябе ў плаванні: Алена Рудкоўская, Аляксандр Папоў і Яўген Садовы (ён — тройчы!) сталі алімпійскімі чэмпіёнамі.

Яшчэ перад пачаткам Гульняў знаходзіліся скептыкі і ў краінах Садружнасці, і за мяжой, якія прадказвалі няўдачу аб'яднанай камандзе. Маўляў, у яе спартсменаў не будзе дружнага калектыву, не будзе стымула (акрамя, вядома, матэрыяльнага) з гонарам выступіць у Барселоне. Што ж, у зборнай СНД ёсць іншы раз рознагалоссі, нават, калі хочаце, трэнні, няўвязкі. Але ў рэшце рэшт усё гэта вырашаецца ў час дыскусіі. Скажам, доўгі час дыскутавалася пытанне аб ушанаванні прызёраў Алімпіяды: чый гімн выконваць, чый флаг падымаць? І было прынята сапраўды справядлівае рашэнне: выконваць гімн і падымаць флаг той рэспублікі, спартсмен якой вызначыўся ў час Гульняў. І ўсё-такі тут сабраліся разам (можа і апошні раз) спартсмены-аднадумцы, сябры, якія падпарадкавалі свае асабістыя інтарэсы і эмоцыі агульнаму. І гэта дапамагае ім перамагаць у Іспаніі. Адзін штрышок, які не застаўся незаўважаным. У генеральным консульстве Расіі ў Барселоне адбыўся прыём у гонар дэлегацыі СНД. На гэты прыём прыехаў і прэзідэнт МАК Хуан Антоніо Самаранч. Пакуль што ні адна каманда краін — удзельніц Гульняў не можа пахваліцца такім гонарам.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ

## КУПАЛЁНКА




**Купалялё, на сенажаці мядуначка, купалялё!**
**Купалялё, там кукавала зязюлечка, купалялё!**
**Купалялё, як кукавала, праўду казала, купалялё!**
**Купалялё, а што казала, не ўсім то знаці, купалялё!**
**Купалялё, Янка Марысю хоча узяці, купалялё!**
**Купалялё, не буду браці — не ўмее жаці, купалялё!**
**Купалялё, выйдзе на ніўку толькі ляжаці, купалялё!**
**Купалялё, сярпом махае вышэй ад сябе, купалялё!**

## ВУЧАЦЦА ЁГІ

Ужо больш двух гадоў у клубе вытворчага аб'яднання «Віцебскдрэў» збіраюцца людзі, якія займаюцца сахаджы-ёгай — сістэмай самаўдасканалення, што дазваляе пазнаць свой унутраны свет і наблізіцца да ісціны. Вучэнне сахаджы-ёгі ўпэўнена крочыць па свеце, рэкрутуючы пад свае сцягі ўсё новых і новых прыхільнікаў гэтай школы. Што датычыцца віцебскага цэнтра, то ў хуткім часе плануецца яго афіцыяльная рэгістрацыя, на якую — прыблізна ў пачатку жніўня — павінен прыехаць Багдан — кіраўнік сахаджы-ёгі ў маштабах былога СССР. Магчыма, пасля прыезду яго расшырыцца і кола захопленых гэтай сістэмай. Пакуль жа колькасць тых, хто пастаянна наведвае заняткі, набліжаецца да некалькіх дзесяткаў.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1397.
Падпісана да друку 3.08.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12